# Голас Радзімы

№ 30 (2016)
23 ліпеня 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**Сям'я і работа — дзве галоўныя рэчы ў жыцці Вольгі Бондар. Ужо дваццаць год працуе яна ткачыхай у Баранавіцкім вытворчым баваўняным аб'яднанні. Калегі па рабоце цэняць яе за майстэрства, добразычлівасць і шчырасць у адносінах. І за сям'ю Вольга Мікалаеўна спакойная. Тут заўсёды пануюць лад ды згода. Працавітымі і добрымі людзьмі растуць трое дзяцей — Ала, Ігар і Света.**

**НА ЗДЫМКУ: Вольга БОНДАР з дачкой Алай.**

**Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ.**

*З ВЫСОКАЙ ТРЫБУНЫ*

## АСУДЗІЛІ АКЦЫІ ЗША

Прыслухацца да закліку Генеральнай Асамблеі ААН і прыняць неабходныя меры, якія вынікаюць з абавязацельстваў па Статуту Арганізацыі Аб'яднаных Нацый і адпаведных міжнародных пагадненняў, заклікалі ЗША ўдзельнікі прайшоўшага ў штаб-кватэры ААН пасяджэння яе Камітэта па сувязях з краінай месцазнаходжання.

Яны звярнулі ўвагу на тое, што ЗША працягваюць настойваць на незаконных патрабаваннях аб скарачэнні колькаснага саставу акрэдытаваных пры ААН пастаянных прадстаўніцтваў СССР, Беларускай і Украінскай ССР, насуперак прынятай кансенсусам рэзалюцыі 41-й сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. ЗША не даюць адказу на прапанову аб правядзенні кансультацый, у тым ліку з удзелам генеральнага сакратара ААН або яго прадстаўніка, з мэтай дасягнуць вырашэння гэтага пытання ў адпаведнасці з пагадненнем паміж Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый і ўрадам ЗША адносна месцазнаходжання цэнтральных устаноў ААН.

*ПРАФСАЮЗНЫЯ КАНТАКТЫ*

## ДЭЛЕГАЦЫЯ ВЦСПС У БАЛІВІІ

Дэлегацыя ВЦСПС на чале са старшынёй Брэсцкага абласнога савета прафсаюзаў М. Гваем, якая прымала ўдзел у рабоце VII з'езда Балівійскага рабочага цэнтра (БРЦ), правяла сустрэчы з актывістамі шэрагу прафсаюзаў дэпартамента Санта-Крус, у прыватнасці з прадстаўнікамі прафаб'яднання сельскіх настаўнікаў, чыгуначнікаў і работнікаў гандлю.

У ходзе гутарак дэлегацыя ВЦСПС азнаёміла членаў балівійскіх прафсаюзаў з асноўнымі прынцыпамі і напрамкамі палітыкі Савецкага ўрада ў галіне сацыяльнага забеспячэння, расказала аб ходзе ажыццяўляемай у СССР перабудовы.

Дэлегацыя ВЦСПС наведала таксама буйнейшае прадпрыемства Санта-Крус — прадзільную фабрыку, што дае каля 80 працэнтаў баваўнянай пражы, якая выпускаецца ў краіне. У час візіту на фабрыку дэлегацыя падзялілася вопытам прафсаюзнай работы з членамі мясцовага камітэта БРЦ.

*ДА 70-годдзя КАСТРЫЧНІКА*

## АДКРЫЛАСЯ ЭКСПАЗІЦЫЯ

«Прыкладное мастацтва Беларускай ССР» — пад такой назвай у Савецкім культурным цэнтры ў Хартуме адкрылася выстаўка, прысвечаная 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. На ёй прадстаўлены разнастайныя работы народных майстроў і прафесійных мастакоў.

Экспазіцыю, якая выклікала вялікую цікавасць жыхароў і гасцей суданскай сталіцы, наведаў намеснік Старшыні Вярхоўнага савета Судана Ідрыс аль-Бана. Ён даў высокую ацэнку дасягненням Савецкага Саюза ў галіне эканомікі, навукі і культуры.

*СУПРАЦОЎНІЦТВА*

## ПОЛЕ ДРУЖБЫ

Згодна з міжнародным пагадненнем паміж Савецкім Саюзам і Польскай Народнай Рэспублікай дагавор аб супрацоўніцтве заключыў і калгас імя Суворава Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці з сельскагаспадарчым прадпрыемствам «Беганаў» Зялёнагурскага ваяводства. Мэта яго — абмен перадавым вопытам, сучаснай тэхнікай, тэхналогіяй вырошчвання сельскагаспадарчых культур і атрымання жывёлагадоўчай прадукцыі.

Першай практычнай справай на шляху супрацоўніцтва з'явілася сёлетняя сяўба. На працягу тыдня побач з мясцовымі хлебаробамі працавалі палякі: механізатар Клеменс Орман, інжынер Ян Калеснік, аграном Стэфан Урбанек. На дзесятках гектараў яны пасеялі кукурузу, буракі па сваёй тэхналогіі. Прывазное насенне запраўлялася ў глебу сеялкай дакладнага высеву. Для апрацоўкі пасеваў з сельгаспрадпрыемства «Беганаў» завезены таксама апырсквальнік, набор гербіцыдаў.

Цяпер на гэтых палях спее добры ўраджай.

*РАСКАЗВАЮЦЬ ЭКСПАНАТЫ*

## ПРЫСВЕЧАНА ЮБІЛЕЮ

У Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны адкрылася выстаўка з сімвалічнай назвай «У баях адстаялі Кастрычнік», якая прысвечана 70-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

З цікавасцю знаёмяцца наведвальнікі з пажоўклымі ад часу дакументамі перыяду станаўлення Савецкай улады, матэрыяламі, якія расказваюць аб подзвігу савецкіх воінаў і працаўнікоў тылу ў суровыя гады фашысцкага нашэсця, унікальнымі фатаграфіямі, на якіх адлюстраваны ўдзельнікі парада Перамогі на Краснай плошчы. Прыцягваюць увагу рэкламы фільмаў ваеннай пары, кнігі, выдадзеныя ў суровы час. Аб барацьбе савецкага народа за справу міру расказваюць шматлікія петыцыі з заклікам далучыцца да мараторыя на ядзерныя выпрабаванні.

Сёння ў фондах музея захоўваецца больш ста тысяч унікальных дакументаў, якія ўзнаўляюць важнейшыя вехі ў біяграфіі нашай дзяржавы.

*ЛЕТАПІС ПРЫДЗВІННЯ*

## ВОБРАЗЫ РОДНАГА КРАЮ

Гімнам роднаму краю, яго выдатным людзям і гераічнай гісторыі стала персанальная выстаўка жывапісных палотнаў віцебскага мастака Васіля Ціхаленкі, якая адкрылася ў абласным цэнтры. У экспазіцыі — дзесяткі работ майстра партрэта і лірычнага пейзажу. Карціны мастака, сабраныя ў выставачнай зале Віцебска, узяты на час з музеяў, Дамоў культуры, сельскіх клубаў і карцінных галерэй літаральна з усіх куткоў вобласці.

Больш чвэрці стагоддзя ствараў жывапісец св саблівы летапіс Прыдзвіння, у які ылі вобразы герояў грамадзянскан і Вялікай Айчыннай вайнаў, сучаснікаў — хлебаробаў, рабочых, настаўнікаў...

*НОВАЯ ТЭХНІКА*

## УНІВЕРСАЛЬНЫ «БУЛАТ»

З зухаватасцю запраўскага краўца «апранае» ў ахоўнае адзенне розны рэжучы інструмент серыйная ўстаноўка «Булат». Ды вось незадача: убранне на ўсе выпадкі аднолькавае, а ў разцоў жа і фрэз работа далёка не аднатыпная. Як падабраць «фасон» адпаведна прызначэнню?

Памагчы «Булату» павысіць кваліфікацыю ўзяліся вучоныя Віцебскага аддзялення Інстытута фізікі цвёрдага цела і паўправаднікоў АН БССР. Яны распрацавалі прынцыпова новую тэхналогію нанясення зносастойкіх пакрыццяў на метал.

Цяпер «Булат» з таго ж матэрыялу і за той жа час, што і раней, «кроіць і шые» адразу некалькі фасонаў. Стойкасць і надзейнасць інструментаў узрасла ўтрая, значна павысіліся прадукцыйнасць і якасць апрацоўкі дэталей.

*РЭКАНСТРУКЦЫЯ*

## АБНАЎЛЯЕЦЦА ВАКЗАЛ

Пяты раз за крыху больш чым векавую гісторыю існавання Мінскага чыгуначнага вакзала праводзіцца яго рэканструкцыя. У адрозненне ад папярэдніх яна прадугледжвае не толькі павелічэнне вытворчай плошчы і стварэнне новых службаў, для чаго ўзводзіцца 12-павярховы адміністрацыйна-бытавы корпус, але галоўным чынам тэхнічнае пераўзбраенне. Укараненне складанай электронна-вылічальнай апаратуры дазволіць стварыць аўтаматызаваную сістэму кіравання перавозкамі на ўсёй Беларускай чыгунцы.

У плане рэканструкцыі — стварэнне неабходных зручнасцей для пасажыраў.

*ЛІДЭР МОЛАДЗІ*



**Аляксандр ТУЗІКАЎ — лідэр трохтысячнай камсамольскай арганізацыі Акадэміі навук БССР. Грамадскую дзейнасць ён паспяхова спалучае са сваёй асноўнай працай у Інстытуце тэхнічнай кібернетыкі, дзе займаецца навуковай работай. Малады кандыдат фізіка-матэматычных навук распрацоўвае матэматычныя метады рашэння задач прымяняльна да гібкіх вытворчых сістэм.**

*ЭКАЛОГІЯ*

## АЗЁРЫ НА МАЛЫХ РЭКАХ

Вялікі клопат пра стан малых рэк праяўляюць жыхары Навагрудскага раёна. Стараннямі агранома калгаса імя Маякоўскага Мікалая Антановіча і іншых аматараў прыроды было створана рукатворнае возера на рачулцы Налібаўка. Паднялася вада ў рэчцы, стала больш рыбы, асабліва фарэлі. Дарэчы, Налібаўка — адзіная рэчка ў раёне, дзе водзіцца гэта рыба. Неўзабаве ў падмогу рэчцы быў пабудаваны яшчэ адзін вадаём, каля вёскі Крываногава.

Добрую ініцыятыву падтрымалі і ў суседніх вёсках. Вадаём на лясной рачулцы Крамушаўка стварылі жыхары Журавельнікаў. Адноўлена таксама азярцо каля Налібокаў.

Па прыкладу гэтага калгаса пачалі ствараць рукатворныя азёры і ў іншых гаспадарках раёна, у выніку чаго малыя рэчкі Навагрудчыны сталі больш паўнаводнымі.

*БЕЛАРУСКІ ФАРФОР*



**Больш, чым у мінулым годзе, выпусціць сёлета тавараў народнага спажывання Мінскі фарфоравы завод. Дасягнута гэта будзе за кошт новых магутнасцей і павышэння прадукцыйнасці працы. У цэху жывапісу ўжо ўступіў у строй новы канвеер, рыхтуюцца да пуску яшчэ два.**

**На прадпрыемстве стала правілам пастаянна абнаўляць асартымент выпускаемай прадукцыі. 16 новых вырабаў паступіць у продаж і сёлета. Гэта чайныя і кафейныя сервізы, дэкаратыўныя вазы, сувенірныя наборы.**

**НА ЗДЫМКУ: набор для вады «Кобальтавыя ружы» работы мастака Л. Багданава адзначаны бронзавым медалём ВДНГ СССР.**

*КІНЕМАТОГРАФ*

## ГАЛОЎНЫ ПРЫЗ — «ЗНАКУ БЯДЫ»

Прадстаўнікам Савецкага Саюза ўпершыню за многа год дасталіся ўсе асноўныя прызы XVI Міжнароднага фестывалю антываенных фільмаў, які праходзіў у Югаславіі ў мястэчку Сопат каля Бялграда. Галоўны прыз — статуэтка, якая сімвалізуе свабоду, прысуджана кінастужцы «Знак бяды» беларускага рэжысёра М. Пташука. Прызы за лепшае выкананне жаночай і мужчынскай ролей уручаны савецкім акцёрам Н. Русланавай і Г. Гарбуку. Амерыканскі рэжысёр О. Стоун атрымаў спецыяльны прыз за фільм «Узвод», раней удастоены прэміі «Оскар».

Фестываль у Сопаце праводзіцца кожны год у дні, калі ўвесь югаслаўскі народ адзначае гадавіну пачатку ўзброенага паўстання супраць фашысцкіх захопнікаў. У фестываля ёсць адна асаблівасць. У яго журы ўваходзяць не дзеячы кінамастацтва, а ветэраны вайны — кавалеры ордэна Народнага героя Югаславіі.

*КВЕТАВОДСТВА*

## ЦЮЛЬПАНЫ З «ДРУЦКАЎШЧЫНЫ»

Быццам вясёлка апусцілася на плантацыі саўгаса «Друцкаўшчына» Нясвіжскага раёна, які спецыялізуецца на вырошчванні цюльпанаў.

Адрас гаспадаркі добра ведаюць не толькі кветаводы-аматары Беларусі. Саўгас пастаянна адпраўляе цыбуліны цюльпанаў дэфіцытных сартоў «парад», «лонда», «оксфард», «дыпламат» у розныя гарады краіны. Іх ахвотна купляюць у Маскве і Саратаве, Разані і Арле.

Цесныя сувязі ўстанавіліся і з эксперыментальна-вытворчай гаспадаркай «Мір» Крымскай вобласці, спецыялісты якой дапамагаюць беларускім кветаводам і парадамі, і насеннем, пастаўляючы ў «Друцкаўшчыну» перспектыўныя сарты.

У саўгасе плануюць пашырыць плошчы для вырошчвання кветак, а рэалізацыю цыбулін цюльпанаў давесці да 5 мільёнаў у год.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

**ПОЛАЦК.** Новы робататэхнічны комплекс, змантіраваны на аўтарамонтным заводзе, аўтаматызаваў працэс халоднай штампоўкі дэталей. Гэта ўжо другі такі комплекс, укаранёны па праграме «Інтэнсіфікацыя».

**БАБРУЙСК.** Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР горад узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Гэтай высокай узнагароды ён удастоены за поспехі, дасягнутыя бабруйчанамі ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве, іх уклад у барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі і ў сувязі з 600-годдзем з часу заснавання горада.

**ГРОДНА.** Абласны цэнтр атрымаў паветраныя зносіны з курортным горадам Сочы. Па гэтаму маршруту тройчы на тыдзень пачалі здзяйсняць рэйсы скорасныя камфартабельныя авіялайнеры «ТУ-134». Яны робяць пасадку таксама ў Адэсе.

**СМАРГОНЬ.** Незвычайны музей створаны пры мясцовым лясгасе. Тут прадстаўлены амаль усе пароды дрэў, якія растуць у навакольных лясах, змешчаны чучалы звяроў і птушак, што насяляюць іх. Уражанне такое, быццам трапіў на маляўнічую лясную паляну.

*ЦІ ЧАКАЕ НАС ДЭМАГРАФІЧНЫ ДАБРАБЫТ*

# ЖАНЧЫНА. ПРАЦА. МАЦЯРЫНСТВА

**Згодна з разлікам дэмографаў, 11 ліпеня бягучага года на свет з'явіўся пяцімільярдны жыхар планеты. Гэты дзень па прапанове спецыялізаванага фонду ААН для дзейнасці ў галіне народанасельніцтва быў аб'яўлены «Днём 5 мільярдаў».**

У месяц, калі адбылася такая памятная для зямлян падзея, насельніцтва СССР налічвала 283 мільёны чалавек. Колькасць насельніцтва ў 1986 годзе павялічылася на 2,9 мільёна, што на паўмільёна больш, чым у сярэднім за пяць папярэдніх год. Ці гавораць гэтыя лічбы аб дэмаграфічным дабрабыце краіны? Якім будзе яе далейшае дэмаграфічнае развіццё?

Прадбачыць будучыню дапамагаюць веды аб мінулым. Чаму, напрыклад, з пачатку шасцідзесятых гадоў колькасць нараджэнняў у СССР стала хутка скарачацца і дасягнула самага нізкага ўзроўню ў 1969 годзе? Звычайна на гэтае пытанне адказваюць так: мала дзяцей нараджалася ў гады вайны. Да шасцідзесятых гадоў дзеці ваенных год самі сталі бацькамі. Калі мала бацькоў, то, натуральна, мала і дзяцей, і змяншэнне колькасці нараджэнняў — «рэха вайны». Гэта, вядома, праўда, але не ўся. Справа ў тым, што ў гэтыя ж гады адбыўся такі неспрыяльны для грамадства пераход да маладзетнай сям'і, што было ў многім звязана з масавым прытокам жанчын у грамадскую вытворчасць: за шасцідзесятыя гады колькасць хатніх гаспадынь зменшылася на 11 мільёнаў.

З чым быў звязаны такі рэзкі скачок? Імкненне жанчын да самастойнасці, да практычнай рэалізацыі свайго раўнапраўя, безумоўна, адыграла ролю, гэтак жа як і нарастаючая ў тыя гады патрэбнасць народнай гаспадаркі ў рабочых руках. Аднак такая станоўчая ў цэлым з'ява мела і свае неспрыяльныя моманты. У прыватнасці, менавіта дзякуючы ёй многія сем'і сталі абмяжоўвацца ўсё меншай колькасцю дзяцей.

Зразумела, рашэнне сям'і займець дзіця, залежыць ад цэлага шэрагу акалічнасцей: матэрыяльныя меркаванні ці, напрыклад, магчымасць для маці даўжэй пасядзець з дзіцем дома. У пачатку васьмідзесятых гадоў у краіне пачаў ажыццяўляцца цэлы комплекс мер, накіраваных на дапамогу сем'ям, якія маюць дзяцей. У прыватнасці, у дапаўненне да чатырохмесячнага водпуску па цяжарнасці і родах жанчыны атрымалі права на часткова аплатны водпуск па догляду дзіцяці да года і неаплатны да паўтара года. Былі ўведзены аднаразовыя дапамогі пры нараджэнні кожнага дзіцяці і да т. п.

Гэта сістэма мер аказалася дастаткова эфектыўнай. Два гады назад у СССР было праведзена выбарачнае сацыяльна-дэмаграфічнае абследаванне насельніцтва. Вынікі яго, у прыватнасці, паказалі, як жанчыны рэалізавалі даныя ім новыя магчымасці. Да года заставаліся з дзіцем дома 80 працэнтаў жанчын, а да паўтара — у 8 разоў больш, чым раней. Праз год пасля ўвядзення новых ільгот паказчыкі нараджальнасці трэціх дзяцей павялічыліся на 14 працэнтаў, чацвёртых — на 10 працэнтаў. Павялічылася і доля сямей, якія складаюцца з чатырох і пяці чалавек.

Вядома, і тады, прыкладна чвэрць стагоддзя назад, прымаліся намаганні для таго, каб даць магчымасць жанчыне сумясціць працу і мацярынства. Але сам прынцып сумяшчэння бачыўся занадта спрошчана, прамалінейна: спосаб жыцця жанчыны-маці складаўся па аднаму з двух тыпаў. Альбо яна з самага ранняга ўзросту малыша аддавала ў яслі, а сама працавала нароўні з мужчынамі, альбо заставалася хатняй гаспадыняй. Сістэма грамадскага выхавання дзяцей пры гэтым безагаворачна прызнавалася больш эфектыўнай, чым сямейная.

За гэтую памылку дорага заплачана, і не толькі скарачэннем колькасці дзяцей у сям'і, але і яе трываласцю, паколькі з раннім «адлучэннем» дзіцяці ад бацькоў знікае не толькі шчасце бацькоўства, але і разуменне сэнсу сумеснага жыцця. Не выпадкова падзенне нараджальнасці адначасова суправаджалася ростам колькасці разводаў.

Трэба было перажыць усё гэта, каб усвядоміць сапраўдную ролю сям'і, значэнне дзіцяці для маці і маці для дзіцяці. Каб зразумець: пытанні матэрыяльнага дабрабыту для сям'і вельмі важныя, але яшчэ важней «хатні» час — а яго і не хапала маці. На [illegible] думку, менавіта таму н[illegible] льготы маці, якія даюць [illegible] магчымасць даўжэй пасядзець з маленькімі дзецьмі дома, і далі хуткія вынікі.

Цяпер прымаюцца новыя меры ў гэтым напрам[illegible] У бліжэйшыя гады ў кра[illegible] эрміны часткова аплатнага і неаплатнага водпуску па догляду дзіцяці для жанчын павялічацца яшчэ на паўгода разам з працягам дародавага водпуску. Прыняты заканадаўчыя меры для таго, каб жанчына магла знізіць пры жаданні працоўную нагрузку. Яны прадугледжваюць магчымасць работы няпоўны рабочы дзень, няпоўны рабочы тыдзень, па зменнаму графіку, іншымі словамі — магчымасць самой жанчыне рашаць, як ёй лепш размеркаваць час і сілы. Пры гэтым сістэма грамадскага выхавання дзяцей не згортваецца. Наадварот, пастаўлена задача поўнасцю задаволіць патрэбнасць насельніцтва ў дашкольных установах. Па сутнасці, цяпер адначасова будуюцца дзве новыя сацыяльныя мадэлі: аптымальнага спосабу жыцця працуючай жанчыны-маці і аптымальнага спалучэння сямейнага і грамадскага выхавання дзяцей. Ужо ў дванаццатай пяцігодцы (1986—1990 гады) будзе павялічана і прамая матэрыяльная дапамога сям'і. Савецкая дзяржава ўзяла на сябе таксама абавязацельства вырашыць жыллёвую праблему: прадаставіць да 2000 года кожнай савецкай сям'і асобную кватэру.

Паводле даных Цэнтральнага статыстычнага ўпраўлення СССР, рост колькасці нараджэнняў у краіне працягваецца: нараджальнасць у разліку на 1 000 жыхароў дасягнула летась 19,9 у параўнанні з 19,4 у 1985 годзе. Важна і тое, што тэмпы росту насельніцтва павысіліся ў адзінаццаці з пятнаццаці саюзных савецкіх рэспублік, у тым ліку і ў самай вялікай — РСФСР. Прычым асабліва прыемны дэмаграфічны зрух у раёнах Расійскага Нечарназем'я, дзе яшчэ нядаўна насельніцтва няўхільна ўбывала. Цяпер ужо відавочная тэндэнцыя да яго росту.

**Марк ТОЛЬЦ,**
**кандыдат эканамічных навук, дэмограф.**

*ЧАС ВЯЛІКІХ ЗМЕН*

# «ЦІХАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ» Ў ЗАРПЛАЦЕ?

„СКАЖЫ, колькі ты зарабляеш, і я скажу, хто ты». Мусіць, такі парафраз вядомага выказвання хутка можна будзе адрасаваць работнікам Мінскага аўтазавода. Тут лічаць, што надыдзе час, калі, нарэшце, зарплата на вытворчасці сапраўды стане аб'ектыўна адлюстроўваць кваліфікацыю і меру працоўнага ўкладу кожнага работніка — ад генеральнага дырэктара да вахцёра.

Аб гэтым цяпер на МАЗе гавораць усе. Праўда, з рознай інтанацыяй. Тое, што славутая «ўраўнілаўка» ў аплаце працы канчаткова знікне, адных радуе (такіх большасць). Але той-сёй і занепакоіўся: звычка працаваць абыякава цяпер ударыць па кішэні.

Зрэшты, па-парадку. Колькі і за кошт чаго зарабляюць сёння аўтазаводцы, чым іх не задавальняе існуючая сістэма аплаты працы?

У заводскай бухгалтэрыі лёгка ўстанавіць: за апошнія 11 год сярэдняя зарплата працуючых вырасла на 38,5 працэнта. Сёння яна складае ў рабочых асноўнай вытворчасці 281 рубель у месяц, дапаможнай — 250 і ў інжынерна-тэхнічнага персаналу 240 рублёў у месяц. Абсалютная велічыня яе на перадавым прадпрыемстве цяпер вышэйшая, чым па галіне савецкага аўтамабілебудавання і прамысловасці ў цэлым (210,6 рубля). Такім чынам, галоўная праблема, гавораць на заводзе, не ў памеры заработку, а ў тым, што зарплата «не працуе» на галоўную задачу дня — павышэнне эфектыўнасці вытворчасці. Яна слаба стымулюе жаданне працаваць лепш.

Каб разабрацца, што ж усё-такі адбываецца на заводзе з зарплатай, я выслухаў два пункты гледжання: рабочых і тых, хто налічае зарплату — заводскіх эканамістаў.

— На суседнім участку нядаўна адбыўся такі выпадак, — расказвае брыгадзір Мар'ян Рудкевіч. — На комплекснай апрацоўцы дэталей рабочы абслугоўваў адразу чатыры станкі. Затраты машыннага часу на дапаможныя аперацыі, адпачынак — усё было, як водзіцца, аблічана нарміроўшчыкамі вытворча-дыспетчарскага бюро. Рабочы, скарыстоўваючы нейкія свае прыёмы, усё-такі значна перавыконваў заданне. Але яго высокія заработкі чамусьці спалохалі планавікоў, і расцэнкі «зрэзалі». Рабочы пакрыўдзіўся і пайшоў працаваць на іншы ўчастак, прадказаўшы, што на яго месца адміністрацыі цяпер давядзецца наняць дваіх і плаціць ім у суме больш. Так і здарылася.

— Нам грэх скардзіцца на зарплату, — гаворыць брыгадзір, — але крыўдна бачыць, што яна яшчэ далёка не дасканалая, як і ўстарэлыя ў многіх выпадках расцэнкі на шэраг работ. Напэўна, дзеючая сістэма занадта ліберальная. Слабому работніку знаходзяць спосабы налічваць, «каб не пакрыўдзіўся». А моцнаму часам «саромеюцца» налічыць больш. Гэта і ёсць галоўная бяда «ўраўнілаўкі». І перабудову з ёю не правядзеш.

— Эпізод, на жаль, тыповы, — каменціруе расказ брыгадзіра намеснік генеральнага дырэктара па эканоміцы Міхаіл Бойка. — Але гэта не значыць, што эканамісты не заўважаюць недахопаў існуючай сістэмы аплаты працы. Настаў час яе змяніць, і першыя крокі мы ўжо зрабілі.

Лідэр эканамічнай службы завода, 38-гадовы кандыдат навук Міхаіл Бойка выдзяляе некалькі найбольш слабых звенняў сістэмы аплаты працы. Яна склалася ў перыяд экстэнсіўнага развіцця індустрыі і больш арыентавана на колькасныя, чым на якасныя паказчыкі. На заводзе адчулі гэта даўно і ўжо год пяць як робяць настойлівыя спробы ліквідаваць гэтую дыспрапорцыю з дапамогай сістэм прэміравання. Так, сёння рабочы мае права атрымліваць прэміяльных да 40 працэнтаў ад тарыфнай стаўкі, а «пагадзінавікі» — да 70 працэнтаў. Прэміруецца выкананне і перавыкананне плана, заданне па якасці, розных відах эканоміі. Але падобная палітыка прывяла да таго, што ў агульнай структуры зарплаты стала слабець, раставарацца доля тарыфу, а гэта не стымулявала павышаць уласную кваліфікацыю і прадукцыйнасць працы.

— Сучасная вытворчасць як сістэма не можа будавацца на нізкіх тарыфных стаўках і выкліканай гэтым неабходнасці значнага перавыканання норм выпрацоўкі, — гаворыць Міхаіл Бойка. — Сёння патрэбна не стыхійнае перавыкананне заніжанага плана, нярэдка на шкоду якасці, а гарантаванае выкананне напружанага задання. Каб механізм [illegible]платы стаў «працаваць» [illegible]ённяшнія мэты перабудов[illegible], патрабуецца не толькі павысіць удзельную вагу тарыфу ў аплаце працы, але і зрабіць саму тарыфную сістэму больш гібкай, пашырыц[illegible]мастойнасць прадпрыем[illegible]ў у вызначэнні памеру заработку працаўнікоў.

Усе гэтыя функцыі, як лічаць на заводзе, выканае прынятае летась рашэнне ўрада аб увядзенні новых тарыфных ставак і службовых акладаў работнікам вытворчых галін народнай гаспадаркі краіны. Гэта, бадай, самае кардынальнае рашэнне ў данай сферы, своеасаблівая фінансавая рэвалюцыя, якая дапамагае пракладваць дарогу новым павевам у жыцці савецкага грамадства.

У чым жа навізна перабудовы ў галіне зарплаты работнікаў вытворчай сферы? Упершыню ў комплексе пераглядаюцца ўсе састаўляючыя арганізацыі заработнай платы — тарыфная сістэма, сістэма прэміравання, механізм даплат і надбавак, нарміраванне працы. Паўсюдна будзе ажыццёўлены пераход на нарміраваны метад фарміравання сродкаў на аплату працы, шырэй стане прымяняцца брыгадны гаспадарчы разлік і калектыўны падрад.

Роля галоўнага рэгулятара заработнай платы аддаецца тарыфнай сістэме, пры гэтым удзельная вага тарыфу ў зарплаце з 50 паднімецца да 70—75 працэнтаў. У рабочых тарыфныя стаўкі павялічацца на 20—25 працэнтаў, у інжынерна-тэхнічных работнікаў — на 30—35 працэнтаў.

Прадугледжана большае, чым цяпер нарастанне тарыфных каэфіцыентаў ад ніжэйшых разрадаў да вышэйшых. Адначасова расшыраны дыяпазон тарыфных сетак. Напрыклад, пры захаванні 6-разраднай тарыфнай стаўкі яе дыяпазон павялічваецца не менш, чым да 1,8 раза, гэта значыць, іменна на столькі больш будзе атрымліваць рабочы вышэйшай кваліфікацыі ў параўнанні з пачатковай.

У галіне таксама ўводзіцца тры ўзроўні ставак (замест дзвюх існуючых). Самы высокі — для рабочых-інструментальшчыкаў, рамонтнікаў і наладчыкаў аўтаматычных ліній, станкоў з лічбавым праграмным кіраваннем, гібкіх вытворчых сістэм. Другі, крыху ніжэйшы — для рабочых, занятых на металаапрацоўчых станках, на халоднай штампоўцы металу, рамонце інструмента, тэхналагічнай аснасткі. І трэці — для ўсіх астатніх работнікаў машынабудавання. Пры гэтым тарыфныя стаўкі першага ўзроўню вышэй за трэці на 21 працэнт. Напружанасць працы ў новых умовах (тарыфных) будзе ўлічвацца прыкладна такім жа чынам, як і ў існуючых цяпер — устанаўленнем больш высокіх ставак для рабочых-здзельшчыкаў у параўнанні з рабочымі-пагадзінавікамі.

Па-новаму будуць выплачвацца кампенсацыі за неспрыяльныя ўмовы працы. Права на атрыманне даплат тут узнікае не аўтаматычна, ад уключэння прафесій у адпаведны пералік, а па выніках фактычнага стану ўмоў працы на канкрэтных рабочых месцах, што вызначае адміністрацыя па ўзгадненню з прафсаюзамі. Размер даплат — ад 12 да 24 працэнтаў тарыфнай стаўкі. Можна таксама прымяняць да 12 працэнтаў даплат за павышаную занятасць актыўнай работай. Надбаўкі да тарыфных ставак за майстэрства ўстаноўлены ад 12 працэнтаў рабочым 3-га разрада да 26 працэнтаў — 6-га.

— Ці азначаюць усе гэтыя меры, што зарплата рабочых узрасце? — пытаюся ў Міхаіла Бойкі.

— У новай пастанове ёсць адна прынцыповая ўмова: каб павысіць тарыфы, прадпрыемства павінна спачатку «зарабіць» для гэтага грошы, з'эканоміўшы існуючы фонд зарплаты за кошт скарачэння колькасці працуючых (пры абавязковай умове іх працаўладкавання ў галінах ці на прадпрыемствах, дзе адчуваецца дэфіцыт рабочых рук), за кошт змяншэння розных неабгрунтаваных выплат і іншых эканамічных мер. Толькі ў межах гэтай эканоміі адбудзецца фактычны рост зарплаты шэрагу катэгорый нізкааплатных рабочых. У цэлым жа павышэнне зарплаты будзе адбывацца запланаванымі тэмпамі — 7-8 працэнтаў за пяцігодку пры 27-працэнтным росце прадукцыйнасці працы.

— Значыць, рэформа зробіць і нормы больш жорсткімі? Ці не выкліча гэта негатыўную рэакцыю калектыву?

— Большасць калектыву разумее неабходнасць падобнай рэформы і чакае яе. Тым больш, што новы механізм адкрывае магчымасць добра зарабіць таму, хто працуе сумленна. Рабіцца гэта будзе за кошт перагледжанай сістэмы прэмій і даплат. Трэба таксама ўлічваць, што ўдасканалены механізм аплаты будзе садзейнічаць паляпшэнню агульных эканамічных паказчыкаў прадпрыемства, а значыць і яго «фондаў дабрабыту», з якіх мы будуем жыллё, аб'екты сацыяльнага і культурнага прызначэння. Аднак будуць і незадаволеныя сярод тых, хто не прывык працаваць з поўнай аддачай. Але зарплата ўжо не можа быць «добранькай» да ўсіх. Павінен дзейнічаць другі закон: працаваць добра — выгадна. Гэта закон часу перабудовы.

**Вячаслаў ХАДАСОЎСКІ.**



На Палессі. Фота Г. БАБКІНА.

## СУАЙЧЫННІЦЫ НА СУСВЕТНЫМ КАНГРЭСЕ ЖАНЧЫН

# ПРАЦЯГНУЦЬ АДЗІН АДНАМУ РУКІ

Гэта сустрэча адбылася ў Маскве ў дзень закрыцця Сусветнага кангрэса жанчын. Сярод дэлегатак з 154 краін знаходзіліся і нашы замежныя суайчынніцы. Гэта і не дзіўна: усе мы добра ведаем, што нашы зямлячкі ў многіх краінах з'яўляюцца актывісткамі розных арганізацый, якія дабіваюцца раззбраення і ўмацавання міру на планеце.

Дзве нашыя суайчынніцы былі членамі дэлегацыі канадскіх жанчын. Надзея Няхода, актывістка Федэрацыі рускіх канадцаў (яна працуе ў Ванкуверскім аддзеле ФРК), была сакратаром адной са шматлікіх камісій кангрэса, і нам так і не давялося ўбачыцца, паколькі яе работа працягвалася да самага ад'езду. Затое Ларыса Тарвік, якая неаднаразова па запрашэнню Беларускага таварыства «Радзіма» гасціла ў нас, прыйшла на сустрэчу не адна.

— Гэта мае сяброўкі, члены канадскай дэлегацыі Дэні Трайб і Донaльда Дзіоб, — прадставіла іх Ларыса Тарвік. — У Канадзе мы ўсе жывём непадалёку адна ад адной у наваколлях Ванкувера. Але вось упершыню сустрэліся і падружыліся тут у Маскве. Дэні і Донaльда, даведаўшыся, што я збіраюся на сустрэчу з журналістам, захацелі пайсці са мной, каб падзяліцца сваімі ўражаннямі аб кангрэсе.

— Я ўпершыню ў Маскве, у вашай краіне, — сказала Дэні Трайб. — І, прызнаюся, проста ўражана ўсім убачаным тут. Перш за ўсё мне здаецца, што так арганізаваць і правесці Сусветны кангрэс жанчын можна было толькі ў Савецкім Саюзе. Нам былі прадастаўлены лепшыя залы, лепшыя гасцініцы. Мы ўсюды сустракалі добразычлівыя адносіны да сябе савецкіх людзей. На мяне асабіста зрабіла вялікае ўражанне тое, што мы мелі магчымасць пабываць у савецкіх сем'ях, паглядзець, як яны жывуць. Ну і вядома ж сам кангрэс. Яго арганізатары спрабавалі ўлічыць усе пажаданні ўдзельнікаў. Мы мелі магчымасць свабодна абменьвацца думкамі па розных пытаннях, не было ніякіх спроб аказаць на нас які-небудзь уплыў або ціск, хаця ўдзельніцамі кангрэса былі жанчыны з краін з рознымі сацыяльнымі сістэмамі, з рознымі рэлігійнымі перакананнямі, з рознымі праблемамі, надзеямі і клопатамі.

— Гэта сапраўды так, у розных краінах перад жанчынамі стаяць розныя праблемы, што яшчэ раз праявілася ў ходзе кангрэса, — падтрымала Донaльда Дзіоб. — Мы пераканаліся, што ў Савецкім Саюзе жанчыны з'яўляюцца сапраўды раўнапраўнымі членамі грамадства, а ў некаторых галінах нават займаюць дамінуючае становішча. А ў многіх краінах існуюць застарэлыя звычаі, паводле якіх па-ранейшаму жанчыне адводзіцца падначаленая роля, існуе дыскрымінацыя, жорсткая эксплуатацыя жаночай працы і многія іншыя праблемы. Па іх у ходзе кангрэса выказваліся самыя розныя пункты гледжання, і да адзінай думкі мы так і не прыйшлі. Але ў адным пытанні ўсе ўдзельніцы былі аднадушнымі з самага пачатку і да канца. Гэта праблема захавання міру на планеце.

Мяне найбольш уразіла выступленне перад удзельніцамі Сусветнага кангрэса жанчын вашага кіраўніка Міхаіла Гарбачова. Яно прагучала вельмі пераканаўча і важка. Мне асабліва запомніліся такія словы: «Высокія і высакародныя мэты вашага кангрэса — зберагчы і зрабіць больш справядлівым жыццё на планеце. Сёння гэта надзённая задача і сусветнай палітыкі». І яшчэ: «Без руху да бяз'ядзернага, ненасільнага міру — няма дарог да прагрэсу чалавецтва». Гэтыя словы выказваюць і нашы спадзяванні і імкненні. Мне здаецца, што не толькі я, але і ўсе ўдзельніцы кангрэса адчулі сябе пасля гэтага выступлення значна мацнейшымі і больш рашуча павядуць у далейшым барацьбу за мір. Цэнтральнай тэмай выступ[illegible]ія Міхаіла Гарбачова было імкненне да [illegible]браення. Ці рэальна ліквідаваць да 2000 года ўсе ядзерныя ўзбраенні? Я лічу, што кожны чалавек павінен верыць у такую магчымасць. Толькі ў гэтай веры можна чэрпаць сілы і энергію, неабходныя для нашай барацьбы. [illegible]аю, што дэлегаткі кангрэса змогуць дабі[illegible] таго, каб да намаганняў вашага лідэра, вашай краіны па захаванню міру дабавіліся і намаганні ўсіх жанчын планеты.

— Я поўнасцю згодна з тым, што выказалі мае сяброўкі, — прадоўжыла размову Ларыса Тарвік. — І на мяне незабыўнае ўражанне зрабіла выступленне Міхаіла Гарбачова. Асабліва запомнілася прастата і натуральнасць яго паводзін, калі ён узяў на рукі адну з вітаўшых нас маленькіх дзяўчынак. Але галоўнае, гэта, вядома ж, выказаныя ў яго выступленні думкі. Ён сказаў, што людзі стаміліся ад доўгага чакання катастрофы. Расце разуменне, што адвесці небяспеку можна, толькі працягнуўшы адзін аднаму рукі праз непазбежныя ідэалагічныя, эканамічныя, палітычныя перагародкі, якія раздзяляюць дзяржавы. Я, як і ўсе суайчыннікі, што жывуць за мяжой, добра ведаю і ганаруся тым, што менавіта Савецкі Саюз першым працягнуў руку іншым дзяржавам для вырашэння самага актуальнага пытання: падаў іншым народам прыклад новага мыслення і рэалістычнага падыходу да палітычных праблем.

У гэтых адносінах нямала робіць наша Федэрацыя рускіх канадцаў. Яе аддзел у Ванкуверы з'яўляецца актыўным удзельнікам кааліцыі «За спыненне гонкі ўзбраенняў», якая аб'ядноўвае 230 розных арганізацый прыхільнікаў міру. Кааліцыя арганізоўвае мітынгі і дэманстрацыі, канцэрты і Маршы міру. Нехапу ў жадаючых удзельнічаць у гэтых мерапрыемствах няма, бо на іх выказваецца воля ўсіх простых канадцаў — жыць у свеце, свабодным ад пагрозы ядзернага знішчэння. Мы хочам, каб аб гэтым ведаў урад, таму і выходзім на вуліцы. У нашым апошнім Маршы міру ўдзельнічала 115 тысяч чалавек. Гэта толькі ў Ванкуверы. Цяпер рух прыхільнікаў міру набірае сілу па ўсёй краіне. Актыўна праводзіцца кампанія «Канадскі залог міру», у ходзе якой канадцы збіраюцца галасаваць у маючых адбыцца выбарах толькі за кандыдатаў, якія абяцаюць працаваць на карысць міру. Яны патрабуюць поўнасцю вызваліць Канаду ад ядзернай зброі, ператварыць яе ў дзяржаву, якая актыўна змагаецца за мір на планеце. Кампанію падтрымліваюць сотні міралюбівых арганізацый Канады. Удзельнікі кангрэса з іншых краін таксама расказвалі нам, што і ў іх дома ўсё больш людзей прымаюць актыўны ўдзел у руху за захаванне міру на зямлі. Мы пакідаем кангрэс з яшчэ большай рашучасцю дабівацца самага надзённага сёння для ўсяго чалавецтва — міру і з упэўненасцю ў тым, што нашы сумесныя намаганні ў хуткім часе прынясуць плён і мы зможам быць спакойнымі за будучыню нашых дзяцей.

**Рыгор ФАМЕНКА.**

## ВЫШЭЙШАЯ ШКОЛА НА ШЛЯХУ ДЭМАКРАТЫЗАЦЫІ

# КІРУЕМ САМІ— КІРУЮЦЬ НАМІ

### ДЗЕНЬ ДУБЛЁРА

Гэты дзень на факультэце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта не быў падобны ні да якога іншага. Прыемныя неспадзяванкі чакалі адразу ж за парогам. Выключна ветліва, як ніколі, вас абслугоўвалі ў гардэробе. Тут жа можна было размяняць манеты для таксафона, купіць ранішнюю прэсу, за якой заўсёды даводзілася бегаць у газетны кіёск. Той, хто не паспеў паснедаць дома, мог падсілкавацца ў экспрэс-кавярні «Ласунак». Незвычайнасцю быў і кансультацыйны пункт, які ўтварылі журналісты рэспубліканскага друку (сюды за парадамі да прафесіяналаў прыходзілі многія журфакаўцы). А на перапынках паміж лекцыямі факультэцкая самадзейнасць давала імправізаваныя канцэрты.

Не, гэта было не свята, а звычайны вучэбны дзень. З той толькі істотнай розніцай, што арганізоўвалі яго самі студэнты. Яны занялі на факультэце ўсе пасады: ад гардэробшчыка да дэкана. Прысутнасць выкладчыкаў і тэхнічнага персаналу абмяжоўвалася роляй цікаўных назіральнікаў, яны не мелі права ў што-небудзь умешвацца. Студэ[illegible] самі чыталі лекцыі, вялі се[illegible]нарскія заняткі, вырашалі ўсе бягучыя пытанні факультэцкага жыцця. Дэкан-дублёр, а ім быў выбраны студэнт трэцяга курса Вацлаў Багда[illegible]ч, за гэты дзень падпіс[illegible]ры дзесяткі розных дакументаў і прыняў 65 наведвальнікаў.

### ШТО ХАЦЕЛІ СКАЗАЦЬ СТУДЭНТЫ

Калі дэканат, выкладчыкі і студэнцкі актыў вырашалі пытанне быць альбо не быць дню дублёра, да адзінай думкі прыйшлі не адразу. «Гульня ўсё гэта. Навошта яна?» — гаварылі адны. Але аргументы студэнтаў былі даволі важкія: маўляў, гэтым днём мы наглядна пакажам, якімі нам хочацца бачыць факультэцкія будні.

Зразумеўшы так, студэнты, зразумела, стараліся зрабіць усё як мае быць. І хаця без «праколаў» не абышлося (адзін «выкладчык», напрыклад, не прыйшоў чытаць лекцыю), яны ўсё ж здолелі паказаць, чаго ім не стае на факультэце. Выкладчыкі-дублёры імкнуліся сваёй лекцыяй максімальна зацікавіць аўдыторыю, выклікаць дыскусію, гатовы былі абмяркоўваць любое, нават самае вострае пытанне. Дэкан-дублёр даў некаторым студэнтам права вольнага наведвання лекцый, грунтуючыся на тым, што яны актыўна супрацоўнічаюць з рэдакцыямі газет і хацелі б аддаваць гэтаму больш часу, ездзіць у камандзіроўкі. Дарэчы, усе дублёры імкнуліся падкрэсліць, што галоўным крытэрыем у ацэнцы студэнта павінны быць яго прафесійныя якасці, а не веданне тэарэтычных пастулатаў, а тым больш добрасумленнае наведванне ўсіх лекцый. Маўляў, калі студэнт спраўна ходзіць на заняткі, гэта абсалютна не значыць, што ён стане добрым спецыялістам. Таму не дзіўна, што многія «троечнікі» сталі ў гэты дзень ледзь не выдатнікамі. Прысутнасць жа на факультэце журналістаў-практыкаў гаварыла пра тое, што іх жадаюць часцей бачыць у аўдыторыях.

### «ДВОЙКА» ВЫКЛАДЧЫКУ

Дзень дублёра — гэта, зразумела, усяго адзін штрых тых дэмакратычных працэсаў, што адбываюцца зараз у нашым студэнцкім жыцці. Многія рэчы, якія год-два назад здаваліся неверагоднымі, сёння патроху ўваходзяць у практыку. Тое, пра што ўчора гаварылі толькі ў кулуарах, цяпер абмяркоўваецца ў студэнцкай насценнай газеце. Нядаўна, напрыклад, у ёй была змешчана ананімная анкета «Што вы думаеце пра выкладчыкаў». Мы, зразумела, спрабавалі аб'ектыўна ацаніць нашых шаноўных прафесароў і дацэнтаў. Не ўсім, праўда, гэта ўдалося. Што ж да выкладчыкаў, то яны даволі цярпіма паставіліся да гэтага анкетавання. Але вынікі яго, трэба думаць, не ўсіх узрадавалі.

Больш шырокім і рэальным становіцца зараз і ўдзел студэнтаў у вырашэнні пытанняў факультэцкага жыцця. Створаны так званы студэнцкі дэканат, куды кожны курс выбраў сваіх прадстаўнікоў. Ён паўнамоцны разбіраць канфліктныя сітуацыі, размяркоўваць стыпендыі, прызначаць дадатковую матэрыяльную дапамогу (студэнты, безумоўна ж, лепш ведаюць, каму яна найбольш патрэбна), вырашаць тую ж праблему вольнага наведвання лекцый. Кіраўніцтва факультэта не можа цяпер прыняць рашэнне, не ўзгадніўшы яго са студэнцкім дэканатам.

Падобныя навацыі адбываюцца не толькі на журфаку. На некаторых іншых факультэтах універсітэта пайшлі нават далей. Студэнты механіка-матэматычнага, напрыклад, пераvялі свой інтэрнат на поўнае самакіраванне — усе пытанні тут вырашае выбарны савет.

Але самыя значныя перамены наперадзе. Справа ў тым, што нядаўна ўбачыў свет адзін цікавы дакумент — пастанова «Аб першарадных мерах па пашырэнню ўдзелу студэнтаў у кіраванні вышэйшымі навучальнымі ўстановамі». Яе прыняло Міністэрства вышэйшай і сярэдняй адукацыі СССР сумесна з прафсаюзамі і камсамолам. Якія правы дае студэнтам гэты дакумент? Па-першае, іх прадстаўнікі будуць прымаць удзел у выбарах рэктара і дэканаў, прысутнічаць на заліках, экзаменах, абаронах курсавых і дыпломных работ, уносіць прапановы па ўдасканаленню практыкі іх правядзення, а таксама ўдзельнічаць у рабоце камісій, якія размяркоўваюць выпускнікоў на працу. Думка студэнтаў будзе ўлічвацца пры атэстацыі і выбранні па конкурсу выкладчыкаў шляхам штогадовай ацэнкі студэнтамі якасці іх працы. Выбары старастаў груп 1 курсаў, заахвочванне і пакаранне студэнтаў, адбор у аспірантуру, размеркаванне стыпендый і надбавак да іх, размеркаванне месцаў у інтэрнатах — гэтыя і іншыя пытанні будуць цяпер вырашацца студэнтамі ці з іх удзелам.

**Міхась ТАЛОЧКА,**
**студэнт факультэта журналістыкі Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна.**

